# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку № 7

**Напярэдадні свята ўсяго беларускага народа — 40-ой гадавіны Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі голас аддаем маладым паэтам Савецкай Беларусі**

ГЕНАДЗІ БУРАЎКІН

## Жаданні

Я хачу прайсці па зямлі
Яе юным, любімым сынам,
Каб сцяжынкі мяне вялі
Па гарах, барах і лагчынах

Каб спакойна ў мяне на плячах
Сінім ранкам спявалі птушкі
Каб я кветкамі ўсімі прапах
Ад падэшваў да самай макушкі.

Каб паданні старой сівізны
Мне з давер'ем дубы шапталі,
Каб крыніц залатыя званы
Для мяне калыхалі хвалі,

Каб кармілі мяне каласы,
Каб паілі ягады сокам
І хавалі ў цяньку лясы
Ад паўдзённай няцсерпнай спёкі...

Я хачу прайсці па зямлі,
Каб мне людзі сэрцы адкрылі,
Слёзы шчасця і мазалі
Па - братэрску са мной падзялілі,

Каб мне роўную частку далі
Сваёй ношы нялёгкай пранесці
І свае галасы уплялі
У мае няхітрыя песні...

Калі так па зямлі я прайду —
Значыць, стану ёй сынам любімым
І харошыя словы знайду
Новай песні для любай Радзімы.

ЮРАСЬ СВІРКО

## Хмаркі

Вецер хмаркі падабраў,
Круціць іх, муштруе...
А пасля далей пагнаў
За мяжу чужую.

Ім не лёгка быць адным
У чужых краінах.
Не маглі забыць яны
Родныя мясціны.

І пад подыхам вятроў,
Разам з песняй звонкай
Паплылі яны ізноў
У сваю старонку.

І палеткі, і бары
Хмаркі тут пазналі.
І заплакаўшы наўзрыд
Да зямлі прыпалі.

ІВАН КАВЕНКА

* * *

Калі жыццё нам сыпле соль няўдачы
І прыціскае цяжарам калёс,
Нібы па звычцы, мы слязліва плачам
І праклінаем асабісты лёс.
А ці ў сябе змаглі спытаць часамі,
Ці нам хоць раз у галаву прыйшло:
«А што ж такога мы зрабілі самі,
Каб з намі гэтак стацца не магло?»

МАРК СМАГАРОВІЧ

## Свету — мір

Пасталі мы на вахту мірнай працы,
Прайшоўшы бою жорсткага гарно.
Нам не забыць, як страшны крык
дзіцяці
І бомбаў выбухі зліваліся ў адно.
Мы заслужылі баявую славу,
Ішлі ў паход не спаўшы па начах.
Свабоды сонца ў Прагу і Варшаву
Прынеслі на запыленых плячах.
Не зацямніць яго магнатам войнаў,
Крывёю не заліць зямную шыр.
З усёй планеты галасы мільёнаў
У грозны гром зліліся —
свету — мір!

УЛАДЗІМІР ПАЎЛАЎ

## Ты, Радзіма, мяне пагукай

Ты, Радзіма, мяне
Пагукай
У квяцістым, святочным
Май,

Ты пакліч,
Як ударыць гром
І дарогі размые
Даждžом,

Ты пакліч,
Ты вазьмі з сабой,
Калі выбухне раптам
Бой.

Дзе б ні быў,
У якой далі,
Я вярнуся к сваёй
Зямлі.

Ты пакліч,
Не забудзь мяне.
Не прыйду, —
Прыпаўзу к табе,
Ды адну не пакіну.
Не!

ІВАН СІПАКОЎ

## Землякі

Земляком назаву я
аршанца у Мінску
Бо прывёз ён паклон
ад лугоў, дзе я ўзрос
Ад гаёў, што мяне
галавалі з калыскі.
Ад ільноў,
прыгажэйшых блакіту нябёс...
Прыйдзе час — адбяруць
нас, і чуйкіх і смелых
Палецім мы на Марс,
навасельцы з Зямлі.
Земляком стане там
мне і жоўты і белы
Хоць яны ў маёй Оршы
зусім не былі.

МІКОЛА АЛТУХОЎ

## Гаворыць Мінск

«Гаворыць Мінск!..» —
І у сваім пакоі
Чго, магчыма, ўбачыш ты
з-за шкла
Над лямпачкай яскравую, якою
Асветлена празрыстая шкала.
Ты ўбачыш горад
трактаразаводаў
Магутных фабрык кучаравы дым,
Сярод мінчан —
Бадзёрых, спрытных хлопцаў —
Сябе ізноў адчуеш маладым

Ты ўбачыш, як будуюцца
палацы,
Праспекты, плошчы,
І ў душы навек
Благаславіш людзей
Стваральнай працы,
Калі ты — працавіты чалавек...

Сталіцы нашай лініі прамыя
Ты ўбачыш, калі выльюцца
ў эфір
Знаёмыя па песні пазыўныя,
Спакойныя і светлыя, як мір.
За прыгажосць, за веліч і за песні,
Мінчанамі народжаныя, я
Люблю цябе навек,
Мой горад весні,
Сталіца непаўторная мая!

РЫГОР БАРАДУЛІН

## У замку Вітаўта

Азёрамі блакітнымі спавіты,
Авеяны легендамі Тракай.
І замак за равамі,
Княжа Вітаўт,
Мы да цябе у госці — сустракай!

На ланцугах узняць цяжкую браму
І перакінуць мост адлай загад.
Туровым рогам нас не кліча замак,
Прыжмураных байніц нямы пагляд.

А веер лесвіц холадам стагоддзяў
Адразу нас з Аллонаю абдаў.
Князь, не крыўдуй, што без дазволу ходзім.
Тут цішыня — маўклівы уладар.

Дзяўчыну я князёўнай называю —
Яе імя, як і тваёй дачкі.
І мур цалуе хваля, як жывая,
Чубы кустоў тапыраць астраўкі

І прасцецца праз расці руіну
Бяроза кучаравай галавой.
А песня пра ўральскую рабіну,
Як ластаўка, лунае над вадой.

